www.nv-online.info

№ 62 (4109)

12 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

*На “Народную Волю” можна падпісацца ў любы дзень з панядзелка па суботу – на месяц, на квартал, да канца года. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.*

**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Беларусь прыняла рашэнне замяніць 330-тонны корпус атамнага рэактара

Як вядома, у ноч на 10 ліпеня падчас перамяшчэння корпуса рэактара для Беларускай АЭС адбылося здарэнне: ён на працягу паўгадзіны знаходзіўся ў падвешаным стане, саслізнуў па стропах і сутыкнуўся з зямлёй.

«Ужо прынята рашэнне пра замену», – заявіў учора кіраўнік Мінэнерга Беларусі **Уладзімір Патупчык**, адказваючы на адпаведнае пытанне журналістаў.

Кажучы аб кошце замены абсталявання, міністр адзначыў, што гэта прадмет перамоў з расійскім бокам.

Інцыдэнт, які адбыўся падчас трэніровачнай пробнай устаноўкі корпуса, доўгі час замоўчваўся. Генпадрадчык будаўніцтва станцыі – расійская група кампаній «Атомстройэкспорт», паспяшалася абвергнуць гэту інфармацыю, аднак Мінэнерга Беларусі прызнала, што на станцыі мела месца «няштатная сітуацыя», якую потым пацвердзіў і "Росатом". Шмат экспертаў выказваліся за тое, што корпус падлягае замене.



СІТУАЦЫЯ

## Прадпрымальнік Віктар Ламека супраць намесніка міністра па падатках і зборах Святланы Шаўчэнка

*“У Зэльве я працую прадпрымальнікам на рынку,* **– распавёў Віктар Ламека “Народнай Волі”. –** *Нярэдка адмоўна выказваўся пра стаўленне дзяржавы да ігнашнікаў. Магчыма, гэта і стала нагодай для таго, што пачаліся рэпрэсіі. У мінулым годзе я даведаўся, што да мяне ёсць прэтэнзіі з боку раённай падатковай інспекцыі, якая склала акт камеральнай праверкі аб падатках, нібыта недаплачаных на працягу некалькіх гадоў. Мне патрэбна было даплаціць больш 50 мільёнаў недэнамінаваных рублёў штрафаў. Я быў у шокавым стане, бо ніколі б не падумаў, што без аніякіх фактаў можна налічыць такую суму і прыцягнуць чалавека да адказнасці. Акрамя гэтага, падключыўся з прэтэнзіямі Фонд сацыяльнай абароны. Я, натуральна, вырашыў абараніцца і звярнуўся ў Гродзенскі абласны эканамічны суд. Там і высветлілася, што налічаныя дадатковыя падаткі і штрафы не пацвярджаюцца канкрэтнымі дакументамі аб парушэнні мною падатковага заканадаўства. У выніку суд амаль усе штрафы адмяніў – з 50 мільёнаў засталося недзе каля мільёна (зараз – 100 рублёў). І тады ў мяне ўзнікла шмат пытанняў. Напрыклад, хто адкажа за тое, што на мяне ў свой час наклалі такое вялізнае грашовае спагнанне? Калі з майго боку фактаў парушэнняў не было, то якім чынам складалі акт? Чаму ў гэтым акце з'явіліся непраўдзівыя звесткі? Я звярнуўся ў Міністэрства па падатках і зборах, каб там далі ацэнку дзеянням іх падначаленых, але быў незадаволены тым, што атрымаў фармальны адказ за подпісам намесніка начальніка ведамства Святланы Шаўчэнка”.*

Прадпрымальнік звярнуўся ў суд Маскоўскага раёна Мінска са скаргай на адказ з міністэрства. На судзе стала вядома, што ніхто з супрацоўнікаў Зэльвенскай раённай інспекцыі, якія мелі дачыненне да складання акта на Віктара Ламеку, не пакараны. Па выніках праведзенай супрацоўнікамі міліцыі праверкі нейкіх фальсіфікацый з боку падаткавікоў пры складанні акта таксама не знайшлі. У выніку суд прыняў рашэнне пра тое, што намеснік міністра па падатках і зборах С.Шаўчэнка дала прадпрымальніку кваліфікаваны адказ.

*“Атрымліваецца, што мне налічылі вялізныя штрафы на падставе фактаў-фантомаў, але вінаватых у гэтым няма, –* кажа спадар Ламека. *– Вось жа парадокс! Зрэшты, я і не спадзяваўся на нейкі станоўчы для сябе вынік. Проста хацеў яшчэ раз паказаць, як у нашай краіне працуюць падаткавікі”.*

*“Тое, што чалавек змагаецца за свае правы, -- гэта добра,* – кажа адзін з лідараў прадпрымальнікаў **Мікалай Аўтуховіч**. *– Бо калі маўчаць, то лепш ад гэтага не будзе”.*

На словах Віктара Ламекі, ён не выключае, што будзе абскарджваць рашэнне суда Маскоўскага раёна ў вышэйшай інстанцыі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГРОШЫ

## Няма даверу да рубля

*Больш за 85% укладаў беларусы захоўваюць у замежнай валюце.*

У даследаванні Нацбанка, у межах якога ацэньвалася сітуацыя з прыцягненнем тэрміновых банкаўскіх укладаў насельніцтва, узяў удзел 21 беларускі банк з 25.

У той жа час, як адзначае Нацыянальны банк, сёлета на фоне зніжэння даходаў грамадзян назіраецца схільнасць насельніцтва захоўваць аб'ёмы спажывання на дакрызісным узроўні, што цягне адток укладаў насельніцтва з банкаў.

ПОЗИЦИЯ



Александр ЯРОШУК,
председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов

## Не стреляйте в пианиста, он играет, как умеет…

Недавно в интервью я сказал, что не считаю белорусскую оппозицию слабой. Не могут быть слабыми люди, выдерживающие два десятилетия громадный груз репрессий, преследований, шельмования и дискриминации. Правящий режим одной из главных своих целей поставил дискредитацию и маргинализацию оппозиционных структур, создание невыносимых условий для их функционирования. И в этом весьма преуспел.

Сегодня оппозиционные организации напоминают деревья без корней – в них нет и при этой власти не будет притока людских ресурсов. Так что режим может праздновать победу. Он достиг своей цели – заключил оппозицию в гетто. Впрочем, победа эта пиррова, поскольку, сделав стерильным политическое поле, власть лишила жизнеспособности не только оппозиционные структуры, но и провластные тоже – поддерживающие ее политические партии, общественные организации типа «Белой Руси» и БРСМ не более чем фантомы.

Заключение в гетто сделало неизбежной внутреннюю борьбу в оппозиции за средства существования, людские и финансовые ресурсы. Ее следствием стали ссоры, склоки, интриги, конфликты. И тут мы имеем право критически высказаться о деятельности оппозиции – лидерам ее организаций не обязательно было строить свои внутренние взаимоотношения на тех же принципах противостояния и борьбы, на которых они бодаются с властью. Хочется порою схватиться за голову, слушая их взаимные обвинения в сотрудничестве с режимом и его спецслужбами. В частности, той же кампании «Говори правду!». Оговорюсь, что мне не очень интересна как сама эта структура, так и люди, ее олицетворяющие.

Но ведь это настоящий идиотизм – видеть в лидерах кампании агентов спецслужб, выдвигать против них обвинения, не предъявляя доказательств. Как мне представляется, лидеры ГП должны только радоваться этой рекламе, благодаря которой они во многом сохраняют к себе интерес. Лично я огорчаюсь, когда мои оппоненты прекращают копаться в моем темном прошлом партократа и агента КГБ. Поскольку любая демонизация, присвоение вам несуществующих возможностей и сил заставляют и ваших оппонентов, и вас самих верить, что они есть.

Невозможно придумать лучший способ рассорить людей и развалить структуры, чем выдвигать публичные бездоказательные обвинения или озвучивать заявления, что в объединенной оппозиции есть место одним, и нет его другим, к примеру, коммунистам. Невозможно создать внутри оппозиции большее напряжение, чем через учреждение очередного клона – Белорусского национального конгресса. По форме действия его учредителей как будто направлены на объединение оппозиции, а по сути – на ее развал. Впрочем, как и действия всех остальных учредителей право- и левоцентристских коалиций, общественно-политических движений, суть которых – в противопоставлении себя остальным.

Если и существуют в недрах КГБ методички по нейтрализации оппозиции, то там наверняка будут прописаны именно такие способы провоцирования ее лидеров своими руками ослаблять, дискредитировать и разваливать свои структуры. Но часто и провоцировать никого не надо – отсутствие стратегического мышления, тщеславие и амбиции существенно подрывают дееспособность и авторитет оппозиционных организаций. Без всяких инструкций КГБ.

*(Продолжение на 2-й стр.)*

СУД

## Штраф для Уладзіміра Япрынцава і няволя – для ягонага сына



*Працягваюцца судовыя слуханні па справе аднаго з былых саўладальнікаў кампаніі “Трайпл” Уладзіміра Япрынцава. Так, учора пракурор прапанаваў прызначыць Казбеку Япрынцаву і Аляксандру Арабяну пакаранне ў выглядзе 9 гадоў турмы ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.*

Для Уладзіміра Япрынцава пракурор папрасіў прызначыць штраф у памеры 1000 базавых велічынь (каля 10,5 тысячы долараў).

Акрамя таго, дзяржабвінаваўца папрасіў суд перакваліфікаваць абвінавачанне Уладзіміра Япрынцава з махлярства на ўкрывальніцтва злачынства (караецца штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін да трох месяцаў).

На думку дзяржабвінаваўцы, Япрынцаў-старэйшы ведаў аб злачынных дзеяннях сына і яго партнёраў, але не паведаміў пра гэта ў праваахоўныя органы.

РАЗВІТАННЕ

## Бывай, слынны сын Беларусі…

*Сапраўды, Бог забірае лепшых. Вось і Алеся Рашчынскага паклікаў да сябе. Забраў шчырага беларуса, прыхільніка нацыянальнага музычнага мастацтва. Ён быў не толькі самабытным кампазітарам, але і актыўным грамадскім дзеячам. А колькі яго яркіх публікацый з'явілася на старонках “Народнай Волі”! Апошні час ён пакутаваў на цяжкае захворванне, але нават у самыя апошнія дні думаў не столькі пра сябе, колькі пра краіну і яе будучае.*

Нарадзіўся Алесь Рашчынскі ў 1949 годзе ў Лагойску Мінскай вобласці.

Закончыў ДМПІ імя Гнесіных (Масква) па класе харавога дырыжыравання В.А.Благаабразава (1975), Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе кампазіцыі прафесара Я.А.Глебава (1984) і пад яго ж кіраўніцтвам – асістэнтуру-стажыроўку (1986).

Член Саюза кампазітараў Беларусі.

Аляксандр Рашчынскі ярка заявіў аб сабе ў розных музычных жанрах – сімфанічным, народна-аркестравым, вакальна-інструментальным. Найбольш значнае месца ў яго творчасці займала музыка, звязаная з беларускім песенна-танцавальным фальклорам.

Інтарэс да народнай творчасці праявіўся ў Рашчынскага яшчэ да паступлення ў Беларускую кансерваторыю, у час яго працы музычным кіраўніком фальклорна-харэаграфічнага ансамбля "Харошкі". Для гэтага калектыву ім быў напісаны шэраг канцэртных п'ес, якія трывала ўвайшлі ў рэпертуар ансамбля. Адначасова з'явіліся арыгінальныя апрацоўкі народных песень для фальклорнага ансамбля "Купалінка" і народных спевакоў, што прынесла вядомасць як выканаўцам, так і пачынаючаму кампазітару.

Важнай сферай творчых інтарэсаў А.Рашчынскага з'явілася жанравая музыка. Кампазітар напісаў п'есы і інструментальныя мініяцюры для народнага аркестра і народнага ансамбля, дзе выразна бачны сувязі з фальклорам. Яны – у адраджэнні традыцый народнага выканання, якое нясе ў сабе элемент тэатральнасці, у пашырэнні традыцыйнага саставу сімфанічнага аркестра за кошт увядзення народных інструментаў, у характарнай вобразнасці. Народная стылістыка знайшла яркае ўвасабленне ў канцэртнай фантазіі для народнага аркестра з салірукочым баянам і гармонікам "З рога ўсяго многа". У 1987 годзе твор удастоены 1-й прэміі рэспубліканскага конкурсу.



На працягу некалькіх гадоў А.Рашчынскі займаўся збіраннем беларускага песенна-танцавальнага фальклору.

Развітанне з Алесем Уладзіміравічам адбылося ўчора.

Бывай, слынны сын Беларусі.

ЭКСПЕРТЫЗА

Місія ПАСЕ:

## Беларусь не ўлічыла ключавыя рэкамендацыі па выбарах

*Нядаўна прынятыя папраўкі ў беларускае выбарчае заканадаўства не ўлічваюць ключавых рэкамендацый міжнародных арганізацый, у тым ліку Венецыянскай камісіі.*

Пра гэта гаворыцца ў заяве назіральнай місіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па выніках папярэдняга візіту ў Беларусь, перадае БелаПАН.

Як адзначаецца ў заяве, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2015 года ў справаздачы ПАСЕ гаварылася: *«Беларусі неабходна правесці рэформу выбарчага заканадаўства, каб стварыць цалкам канкурэнтнае палітычнае асяроддзе, што з'яўляецца ключавой умовай для доўгатэрміновай дэмакратычнай стабільнасці».*

Дэлегацыя, якая наведала Мінск, вітае працу міжведамаснай працоўнай групы, створанай у Беларусі ў лютым для паляпшэння выбарчага працэсу, але пры гэтым адзначае, што ўсе рэкамендацыі гэтай групы будуць разглядацца толькі пасля правядзення парламенцкіх выбараў.

У маі кіраўнік ЦВК Беларусі Лідзія Ярмошына паведаміла пра рашэнне прыняць некаторыя працэсуальныя змены з улікам рэкамендацый міжнародных арганізацый. Гэта, у прыватнасці, тычыцца працэдуры прызначэння складаў выбарчых камісій, паляпшэння магчымасцяў для назірання за падлікам галасоў, гарантый для датэрміновага галасавання. Дэлегацыя ПАСЕ спадзяецца, што ўсе гэтыя рашэнні будуць цалкам выкананы.

Прадстаўнікі апазіцыі на сустрэчы з дэлегацыяй ПАСЕ паведамілі, што падчас фарміравання ўчастковых выбарчых камісій толькі 53 з 514 вылучаных прадстаўнікоў апазіцыйных партый былі ўключаны ў склад камісій.

*«Палітычна ўраўнаважаны склад камісій з'яўляецца ключавым фактарам для таго, каб павялічыць давер выбаршчыкаў да працэсу выбараў»*, – гаворыцца ў заяве.

У заяве адзначаецца, што за месяц да даты галасавання (11 верасня) выбарчая кампанія мала прыкметная.

У верасні місія ПАСЕ вернецца ў Беларусь назіраць за выбарамі непасрэдна ў дзень галасавання.

ПИСЬМА ИЗ ПРОВИНЦИИ

*Журналист «Народной Воли» **Елена Молочко** провела неделю в Шарковщинском районе Витебской области. Продолжает рассказывать о том, что она там увидела.*

# Смелому щи с мясом хлебать, несмелому и гороха не видать

### О вкусе не спорят. Его воспитывают

Все-таки Западная Беларусь до сих пор отличается от восточной половины страны. Мужчин здесь зовут Теофилами, Иринархами, Тадеушами, Бенедиктами, Генрихами… Женщины часто Терезы и Анжелики. И в городских «достопримечательностях» сохранился очевидный польский след: например, рассказывают, что на местном пляже у реки Дисны лежит цементная стела, установленная здесь когда-то в честь генерала Пилсудского. В 1939-м ее, конечно, повалили, но не убрали, а вскоре забыли вообще. Она заросла лопухами, но найти можно. Я, правда, берег не исследовала, но информации верю – рассказывали местные журналисты.

А какие холеные цветники на Шарковщине… Хотя ведь район не из богатых, даже, напротив, из наиболее бедных по доходам населения. Но ландшафтный дизайнер здесь тебе, кажется, каждая вторая хозяйка. Душистый табак богатой цветовой палитры украшает палисадники и в райцентре, и в деревнях Шарковщины. И что важно, все устроено не по журнальным лекалам, а с местным акцентом, колоритом, который на самом деле только и ценится во всем мире.

Вот бы еще подтянуть нашей провинции общественное питание, меню в кафе и барах. Ну, можно ли куриные котлеты жарить на маргарине? Класть в кофе сахар, не спрашивая клиента? Заливать все салаты майонезом на палец толщиной? И вообще, сколько можно так невкусно готовить, так не любить себя и повсюду в барах предлагать хот-доги, чипсы, «пиццы», снеки и вечные коричневые пончики? Есть же в наших традициях огромное количество блюд бюджетных, недорогих и именно белорусских. Надо же чем-то отличаться, чем-то зазывать, заманивать приезжих! Да и местные, глядишь, чаще заходили бы на «огонек».

Не буду про французский Прованс, где каждая деревня может похвастаться своей особой похлебкой, сыром или пирогами в кафе. Еда у французов культ. И климат хороший – способствует внутреннему туризму. Но обернемся на соседку Польшу. Там даже в придорожной kawiarnia вам предложат вкуснейшую запеченную голонку по-польски (голяшку, рульку). В Чехии, куда ни заглянешь, первым пунктом в меню стоят кнедлики, национальное блюдо чешской и словацкой кухни. С творогом, клубникой, картофелем, мясом. Как не попробовать? Все туристы заказывают кнедлики – а зачем в Чехии заказывать пиццу?

В Шарковщине нет в меню даже драников. Нет рыбы – хотя рядом Браславщина с хорошим рыбным базарчиком. В сезон нет в меню грибов, и, что уж совсем удивительно, ягод, хотя люди ведрами везут чернику и ценнейшую голубику: Шарковщина – болотный край. И как везут!

### Ода велосипеду

В провинции от мала до велика все давно рассекают пространство на велосипедах. Это же картина маслом, особенно когда немолодые курпулентные сельчанки в платьях или юбках элегантно крутят педали, возвращаясь из леса. На руле по бокам у них обычно по два полных ведра ягод, на ногах – «по моде» – пластмассовые шлепанцы. Они по 10 километров накручивают в такой обуви, не зная, не ведая, что в столице без кроссовок народ и подойти к велику не смеет (хотя, конечно, рабочие резиновые сапоги у любой нормальной хозяйки стоят на заднем багажнике).

Вообще, женщина и велосипед – это, согласитесь, сексуальное зрелище. Знаменитая американская суфражистка Сьюзен Энтони еще в конце XIX века заявляла: «Велосипед сделал больше для эмансипации женщин, чем все остальное вместе взятое». А вот у Чехова в рассказе «Человек в футляре» главный герой был настолько поражен видом дамы на велосипеде, что отказался на ней жениться…

Но если в Минске велосипед – это фитнес, времяпрепровождение, то в районе велосипед – первый помощник. В летнее-осенний сезон в районах все разговоры начинаются и заканчиваются темой заготовок на зиму. Кто, сколько привез из леса? Сколько и чего закатали с огорода? Деньги, они на земле, не ленись, поднимай. В маленьком районе рынок труда небольшой. Есть местная промышленность: консервный завод, ЖКХ, завод по переработке торфа, который недавно построил чешский инвестор. Немного торговли и бытового обслуживания. Но семейный бюджет немыслим без доходов от личного хозяйства и собственного трудолюбия.

### Мужская доля

Если говорить о занятости населения, то немало мужчин Шарковщины ездят работать на стройки по всей республике: РСУ выигрывают тендеры и – вперед.

– Моего и не удержишь дома, – с улыбкой констатировала семейную реальность Раиса Гракова. – Он, строитель, всю жизнь в разъездах. Такова мужская доля. А женская – огород. Пока дети росли, держали огромное хозяйство – 10 свиней, 3 коровы… Ох, поработала я вволю. А теперь нет надобности, дочки и так хорошо устроены. Но огород держу, как без огорода! У нас все держат огород и хозяйство, у нас люди зажиточные, квартиры детям в городе строят, – неожиданно заключила женщина.

А по бюллетеням «Белстата» Шарковщина по средней номинальной зарплате в стране где-то в конце списка... Но личное подсобное хозяйство всегда выручало белоруса. Не подводит, кажется, и теперь.

Раиса Николаевна Гракова – библиотекарь. Я зашла в районную библиотеку под вечерок. Тихо. Но вот кончатся огороды у людей, они пойдут за книжками, вступила в разговор и обнадежила меня заведующая отделом Татьяна Михайловна Райчонок. Собственно, не успели мы как следует разговориться, как в библиотечном зале стали появляться читатели: молодежь приходила за учебниками по экономике, по электродинамике. В Шарковщинской районной библиотеке записано 3150 человек. Особенно хорошо берут книги и журналы в деревнях, когда к ним приезжает библиобус. Или когда библиотека появляется на больших районных праздниках – вот скоро фестиваль «Яблочный спас». Газету «Народную Волю» библиотека не выписывает, нет. Но со следующего срока на 2 месяца будут, начальство разрешило, сказали работницы. Как говорится, и на том спасибо!

Даже на гербе Шарковщины есть ягоды.

С высоты птичьего полета

Заведующая отделом районной библиотеки Татьяна Райчонок.

Забегая вперед, скажу, что возвращалась в Минск из Шарковщины я на частном маршрутном такси. Без чека. Но соблазнилась скоростью. Разговорились в пути. Частный извоз – еще один вид деятельности, который приносит доход жителям провинции, особенно на таком туристическом направлении, как Минск–Браслав. За два часа пути узнала некоторые интересные подробности бытия. Водитель, естественно, не представился.

Начала разговор сама:

– Через 15 минут на станцию должно прийти официальное маршрутное такси, но вы ведь специально приехали туда раньше и забрали клиентов у своих же товарищей. Они об этом не догадываются?

– Думаю, знают.

– А почему без чека? Почему не регистрируетесь официальным ИП?

– А долго оформляться – 3 месяца. У соседей в Латвии – 3 дня.

– Часто бываете в Евросоюзе?

– Бываю. Привожу под заказ велосипеды, байдарки. Ищу своих покупателей по газетным объявлениям. Товары, конечно, б.у., но все равно качественнее и дешевле, чем отечественные. Особенно немецкие. Через Россию везу, у нас на границе таможня лютует. А с российской проще.

– А какая зарплата вас бы устроила? Чтобы не мотаться каждый день в Минск и обратно?

Молчание.

– Тысячу у.е.?

– Уууууёёё…

– Остановитесь, пожалуйста, у обочины, ягод и грибов куплю у людей!

– Здесь дорого, я знаю деревню, где люди продают дешевле.

– Часто у них берете?

– Мы все берем в лесу.

– В отпуске уже были в этом году?

– Собираюсь, хотим с семьей в Одессу. Вот на отпуск и зарабатываю. С госпредприятия давно ушел, хотя я инженер по образованию. Как живу? Кручусь-верчусь. Летом сдаем на Браславщине комнаты в доме. ИП, конечно, придется зарегистрироваться, получить лицензию. В общем, заработать можно, было бы старание.

Эту фразу в той или иной интерпретации я часто слышала в «бедной» Шарковщине: трудно, но не безвыходно, кто хочет, тот зарабатывает. Фраза не расшифровывалась, но понять ее не трудно. Сейчас человек неплохо зарабатывает, если забывает о 8-часовом рабочем дне, о часовом обеденном перерыве, о комфорте. Если он мобильный и не боится менять профессию. Если ему по силам вообще менять привычные шаблоны жизни. Эта тенденция есть и в больших городах. И в будущем будет преобладать на рынке труда. А народ, собственно, всегда был к этому готов. Издавна пришел к выводу: смелому щи с мясом хлебать, а несмелому и гороха не видать.

**Елена МОЛОЧКО.**

АГУЛЬНЫ ПЛАН

## На мінскім вакзале будуць пець па-беларуску

Чым займаюцца пасажыры залы чакання на Мінскім чыгуначным вакзале? Праглядаюць прэсу, слухаюць песні, якія ляцяць з дынамікаў, каб пацешыць турыстаў. У асноўным гэта расійская папса, беларускую песню не дачакаешся...

Адзін з пастаянных наведвальнікаў вакзала мінчанін Ягор Макарэвіч звярнуў увагу на гэты перакос. І напісаў ліст у “ДорОрс”, арганізацыю, якая абслугоўвае залы чакання, з прапановай падумаць над падборам песень на галоўным вакзале рэспублікі.

Начальства палічыла папрок справядлівым. Мінчуку прыйшоў адказ, што песень на беларускай мове ў зале чакання будзе больш. “ДорОрс” набыў новыя касеты і праслухоўвае іх, каб выбраць самыя лепшыя.

**Вікторыя ДРОЗД.**

ПРАВАКАЦЫЯ?

## Білборд з памылкамі

На вуліцы Леніна насупраць Мінскага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі «МЗОР» з’явіўся білборд, прысвечаны музеям Беларусі.

На ім дзве правапісныя памылкі: пасля літары «ш» – мяккі знак («любішь»), слова «сваю» напісана праз «о» («свою»). Правакацыя? Чыя?

На білбордзе пазначана: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

РЭАЛІІ

## На 9 рублёў 48 капеек больш

Памер месячнай мінімальнай заработнай платы (МЗП) у ліпені бягучага года склаў 239 рублёў 48 капеек. З 1 студзеня бягучага года яна была ўстаноўлена ўрадам у памеры 2 млн 300 тысяч, або 230 рублёў новымі грашыма. То бок “мінімалка” вырасла на 9 рублёў 48 капеек.

Мінімальная заработная плата – гэта дзяржаўны мінімальны сацыяльны стандарт у галіне аплаты працы, менш якога наймальнік не мае права плаціць работніку за працу ў нармальных умовах на працягу нармальнай працягласці працоўнага часу пры выкананні абавязкаў работніка, што вынікаюць з заканадаўства, лакальных нарматыўных прававых актаў і працоўнага дагавора.

Калектыўным дагаворам (пагадненнем) можа быць устаноўлены іншы памер месячнай мінімальнай заработнай платы, але не ніжэй за МЗП, якая ўсталявана ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ТРАГЕДЫЯ

## З-за няшчаснага кахання?

*На адной з памежных застаў каля Бераставіцы застрэліўся памежнік. Здарэнне, якое адбылося 10 жніўня, пацвердзілі ў прэс-службе Дзяржпагранкамітэта.*

Вядома, што малады чалавек падчас дзяжурства зайшоў у адно з падсобных памяшканняў і выстраліў з пісталета.

“Інфармацыі пра застрэленага няшмат. Яму прыкладна 20–21 год. Па некаторых дадзеных, гэта вайсковец кантрактнай службы. Тэрміновую службу ён праходзіў на гэтай жа заставе, пасля чаго падпісаў кантракт, – паведамляе tut.by. – Пра прычыны таго, што здарылася, падрабязнасцяў мала. Некаторыя таварышы з асцярожнасцю кажуць, што ўсяму віной няшчаснае каханне”.

ПАДЛІЧАНА

## Пашанцавала нямногім

Вярхоўны суд Беларусі апублікаваў статыстыку прысудаў за першае паўгоддзе 2016 года. Асуджана было 22.018 чалавек, апраўданы – 44.

ПОЗИЦИЯ

# Не стреляйте в пианиста, он играет, как умеет…

*Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Теперь, надеюсь, понятно, почему я предпочел не участвовать в оппозиционной тусовке. Сделав вывод, что не будет ничего плохого, если ее ряды не пополнятся еще одним буйным, свел свой вклад в процесс дезинтеграции оппозиционных сил к нулю. А нерастраченный заряд энергии сосредоточил не на неистовой борьбе со своими единомышленниками, а на конкретном деле, и вместе со своей организацией, как мне кажется, занимаюсь им не без результата.

Что же касается оппозиции, то, считаю, возможность для ее консолидации все же существует. И лежит она не в плоскости очередных призывов и лозунгов к объединению. Многолетний опыт создания разнообразных коалиций наглядно показал, что проблема не в лидерах и активистах оппозиционных структур, а в установленных режимом правилах игры, благодаря которым они оказались в гетто. И выбраться из гетто можно не иначе, чем поломав эти правила.

Для этого надо ясно представить себе политическую карту Беларуси, закрепленную в голове белоруса. Есть партия власти и есть партия демократов. И под эту карту, понятную белорусу, переформатировать свои структуры. Но поскольку объединить структуры как юридические лица не получается, то почему бы не попробовать создать надстройку – назовем ее условно Партией демократов Беларуси – путем вступления в нее в качестве физических лиц членов политических и общественных демократических организаций и любых других граждан страны – сторонников демократических перемен?

Не надо распускать существующие партии и движения, пусть они остаются как паровозы под парами на запасных путях. Пусть проводят съезды, занимаются своими организационными вопросами, социальными проблемами и благоустройства территорий, просветительства. Но сегодня не их время заниматься политикой, граждане страны в результате многолетней промывки мозгов в абсолютном большинстве не проявляют к ним интереса, не понимают идеологических различий между ними. Впрочем, как и значительная часть самих членов нынешних партий и движений, мигрирующих от одной структуры к другой или состоящих сразу в нескольких – этаких многостаночников.

Коль в стране отсутствует политический процесс, то неразумно вести себя так, как будто он есть и дает возможность демократическим организациям в нем участвовать. Речь идет прежде всего об участии в выборах – оно имеет смысл только тогда, когда выборы проходят по партийным спискам. В условиях мажоритарной избирательной системы нет и не может быть шанса для партий и движений провести хотя бы одного своего представителя в депутаты.

В этом и состоит политическое ноу-хау правящего режима – мажоритарная избирательная система позволяет гарантированно выбирать без выбора, без наблюдения и без избирателей. Что находит подтверждение и в ходе нынешней парламентской кампании.

Только нестандартные действия могут заставить режим вывести политический процесс из замороженного состояния. Одно из них – создание объединенной партии (или движения) демократов с тем, чтобы от ее имени принимать участие в избирательных кампаниях. Конечно, возникнет вопрос регистрации такой структуры. Но пусть теперь у власти болит голова, как реагировать на эту инициативу оппозиции. Зарегистрировать структуру объединенных оппозиционных сил – серьезно возрастают риски, не зарегистрировать – что говорить тогда своим новым европейским и американским друзьям, которых с таким трудом удалось убедить, что над Беларусью взошло и светит солнце демократии. Оппозицию же устроит любой результат: зарегистрируют – хорошо, нет – еще лучше, можно эффективно действовать в любом формате.

Если ставить задачу выбраться из гетто, пора прекратить послушно следовать выработанным властью правилам. Необходимо научиться диктовать ей свои, ставить в тупик неожиданными ходами. Власть к ним не привыкла, уверенно себя чувствует в предсказуемой ситуации. Непредсказуемая же вызывает у нее ступор и действиями, которые оппонент не ждет и не просчитывает, необходимо лишать его стратегической инициативы и навязывать свою.

Такое объединение устраняет губительную внутреннюю конкуренцию за людей и ресурсы, и, если кто-то из политиков откажется входить в него, он фактически ставит на себе крест. Объединение позволит принципиально улучшить имидж оппозиции в белорусском обществе и в международном сообществе, возвратить утраченное моральное превосходство над властью. Оно кладет конец интригам и конфликтам, позволяет выработать ясные и понятные демократические правила руководства структурой, очередности сменяемости лидеров.

Такая форма объединения дает возможность более эффективно организовывать акции протеста, сравнительно легко формировать единый список кандидатов в депутаты всех уровней и выдвигать единого кандидата на президентских выборах. Наконец самое главное – объединение посылает мощный импульс белорусскому обществу и создает реальные предпосылки для формирования в нем запроса на перемены.

Другими словами, идея так хороша, что у меня практически нет сомнений, что она будет отвергнута как неосуществимая. Но именно такие, ни на что не похожие, идеи востребованы сегодня. Востребованы яркие, нестандартные личности, способные их генерировать, а не озвучивать мантры об очередном клонировании структур, создании новых партий, движений, кампаний или коалиций. Они вызывают идиосинкразию, на них уже выработался стойкий рвотный рефлекс. Если новые идеи не появятся и ничего не поменяется, оппозиция и дальше будет совмещать несовместимое, допускать недопустимое – бороться друг с другом столь же последовательно, как и с режимом. И, оставаясь потенциально серьезной силой, будет шаг за шагом ее терять, все больше превращаясь из субъекта в объект политического процесса, все меньше влияя на возможность смены власти в стране.

Не стреляйте в пианиста, он играет, как умеет…



Народная Воля http://www.nv-online.info 12 ЖНІЎНЯ 2016 г.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Добро пожаловать в… ад



*Жители Чечни бегут на Запад через белорусско-польскую границу, чтобы встретиться со своими соотечественниками в лагерях для беженцев в Европе. Корреспондент «Народной Воли» провела сутки среди чеченских семей на Брестском вокзале.*

### Выехали 750 человек, вернулись 740

По расписанию электричка из Тересполя прибывает в Брест в 14.15. Но задерживается сначала на десять, потом на 20 минут.

Зал ожидания пестрит цветастыми платками чеченок. В душном вокзальном воздухе стоит гул от детского плача и перебранок. Вялый охранник прогуливается вдоль деревянных скамеек. На одной из них, поджав по себя босые ноги, сидит молодая жительница села Урус-Мартан. Рядом с ней – четверо детей. Маленькая Эльза прижимается к маме, зорко наблюдая за каждым моим движением. 13-летний сын устроился поодаль и недоверчиво поглядывает на диктофон.

– *Мужа десять дней назад увели из дома в неизвестном направлении, не объяснив причины ареста,* – рассказывает чеченка. – *Я не знаю, где он сейчас. Старшего сына избили, вы его не спрашивайте ни о чем, пожалуйста, пацан натерпелся… Уже больше недели провели здесь, несколько раз пытались проехать в Польшу, но у нас нет виз. А где их достать, в Москве, что ли?! Если ты из Чечни, можешь и не рассчитывать на положительный ответ в консульстве.*

По словам беженцев, как только поезд прибывает на контрольно-пропускной пункт в Тересполь, всех, кто внешне похож на выходцев из Кавказа, отделяют от основного потока пассажиров и загоняют в комнаты временного задержания, держат там два-три часа. Затем поляки проводят с ними «интервью» – собеседование для прохождения границы. Паспорта на это время забирают. Теоретически после собеседования каждый имеет шанс на пропуск. В реальности же интервью носит чисто формальный характер.

Говорит чеченец Абаз:

– *Пограничники не тратят и двух минут на каждого. Мы выучили, как сказать «убежище» по-польски, кричим, но ноль внимания. Швыряют российские паспорта чуть ли не в лицо. Дальше следует возвращение в Беларусь.*

Снять квартиру в Бресте стоит минимум 25 евро в сутки. Когда деньги заканчиваются, семьи с детьми переселяются в комнаты отдыха на верхних этажах брестского вокзала, а потом и вовсе в зал ожидания, прямо на твердые скамейки. С недавних пор здесь все стало платным, даже кипяток и использование электрических розеток.

– *Нам не обязательно нужна Польша, пусть просто предоставят коридор. Ведь недавно правительство Германии заявило, что примет столько беженцев, сколько сможет. Неужели поляки не понимают, что нам, политическим, нет пути назад в Чечню?* – недоумевает Умар.

В его паспорте я насчитала более 30 штампов, все это – тщетные попытки въехать в Евросоюз. На родине Умар работал электриком, имеет техническое образование и говорит, что был бы рад трудиться на благо любой европейской страны в обмен на свободу от преследования.

В обед из Бреста выехали 750 человек, вернулись 740. Перед приездом электрички на платформе усиливают меры безопасности: тут дежурят люди в штатском, ОМОН, военные.

Главная жалоба беженцев на польскую сторону – жестокое обращение на КПП. Девятнадцатилетний парень из Грозного рассказывает, как его мать и младшую сестру полицейские затащили на второй этаж здания, заломив женщинам руки. Матери вывихнули плечо. Парень вступился за родных, за что сам «нормально получил дубинками по верхней части туловища». Он показывает мне видео, на котором польские спецназовцы задерживают чеченцев с применением грубой силы.

Дозвонившись на польский КПП, конкретного ответа на вопрос о причинах такого обращения с людьми я не получила. Дежурный пограничник сказал, что не уполномочен давать какие-либо оценки происходящему.

В пресс-центре Госпогранкомитета Беларуси заявили: граждане Российской Федерации прибывают к нам на законных основаниях, по документам, удостоверяющим личность, и не нарушают порядка пребывания в нашей стране. По словам уполномоченного сотрудника, никаких претензий в адрес белорусских пограничников от чеченцев не поступало.

### Побег с полигона

Что заставляет всех этих людей покидать родину?

В своем недавнем расследовании журналист Северокавказской службы Радио Свобода **Лема Чабаев** отмечает: оставшиеся в Чечне все чаще жалуются на невыносимые экономические условия в республике: неподъемные налоги. А те, кто решил уехать на Запад, в один голос говорят именно о политических преследованиях.

На Брестском вокзале журналисту сложно сразу стать «своим», кавказцы – народ гордый и недоверчивый, они крайне осторожно относятся к посторонним. Многие убеждены, что и в Беларуси их могут найти «люди Кадырова». Говорит юный грозненец с внимательным взглядом:

– *По телевизору миру показывают блестящую обертку: небоскребы-новостройки, дорогие иномарки, отстроенный из руин Грозный… Но простые семьи не видят роскоши, в которой купаются местные чиновники. Если ты не принадлежишь к числу приближенных к власти, лучше сразу забыть о всех правах. Не можешь заплатить за коммунальные? Хочешь пожаловаться главе республики? Готовься увидеть пепелище на месте своего дома.*

Под электронным табло встречаю пожилого мужчину. Как и остальные, он боится называть настоящее имя и не разрешает сфотографировать его. Мужчина протягивает клочок бумаги, где каллиграфическим почерком выведено: «*Чечня сегодня превратилась в полигон путинизма, с репрессиями и пытками, с проспектом Путина и памятником Кадырову-старшему, с абсолютно тоталитарным режимом*».

– *Видите, вон там сидит мой знакомый без ноги? Это эхо войны. Мы все воевали в отрядах. И в первую, и во вторую кампанию. Его, безногого, поляки тоже разворачивают восвояси. А вернись мы домой – не пройдет и дня, как за нами придут.*

Зная, что десятки людей сегодня будут ночевать прямо на вокзале, обещаю вернуться после десяти вечера.

### «У каждого здесь своя история»

Вечером возвращаюсь в зал ожидания, захватив теплое шерстяное покрывало. Теперь наша встреча значительно отличается от первой. Женщины соорудили мне «чеченский» наряд: черную юбку ниже колена, на голову – шелковый платок. Так я похожа на одну из них. Вокзальный буфет превратился в своеобразную приемную, место паломничества людей, не боящихся говорить.

32-летний Аслан бежал из Чечни два месяца назад, продав дом и участок. Аслан работал электриком и не мог оплачивать огромные счета за коммунальные услуги. Тогда власти отключили в его жилище свет и газ. В семье уже трое маленьких детей младше семи лет. Жена Али на шестом месяце беременности и, живя на вокзале, не имеет доступа к неотложной медицинской помощи. У Аслана осталось всего 450 евро. Он из последних сил снимает тесную комнату отдыха без окон, отдавая по 20 евро в день. Дети не могут спать в душной комнате, лежат на полу под вентилятором. Мужчина надеется попасть в Польшу до того, как полностью закончатся деньги.

Лариса с грудным ребенком на руках скрывается от мужа. Женщина приподнимает подол платья – на ноге видны шрамы от глубоких ран.

– *Муж ранее отсидел срок за изнасилование девочки, а когда вышел, стал постоянно избивать меня. Угрожал просто убить. Власти встали на его сторону, мол, это нормальные дела. Лучше уж всю оставшуюся жизнь проживу на улице, чем вернусь к нему.*

Днем Лариса предприняла сорок восьмую попытку пересечь границу, но вернулась ни с чем.

45-летний Ибрагим страдает от сахарного диабета, давление подскакивает до 200. После восьмой попытки он говорит, что надежда уехать иссякла.

– *Знаете, у каждого своя история… В Грозном я держал пекарню, просто выпекал хлеб. Отца в 1995-м расстреляли федералы. Наша семья симпатизировала Дудаеву, поддерживала независимость Ичкерии. В первую кампанию я служил волонтером, сопровождал обозы, развозил раненых по госпиталям. Людей не убивал. Во вторую отказался воевать, так как ненавижу террористов-вахаббитов. Поэтому и не пошел к Басаеву… Открыл маленькое частное дело. Хлеб стоил два рубля, а значит, и налоги в казну выплачивал небольшие. Властям это не понравилось. Я стал получать постоянные угрозы. В прошлом году возвращался домой к жене, на дороге машину остановили четверо в черных масках, вытащили меня из салона и избили по почкам. Ставили ногу на голову. На рукавах у них были нашивки с российским флагом… В итоге мы собрались и уехали. Если Польша не пропустит в девятый раз, будем вынуждены вернуться домой. Считай, билет на тот свет.*

К счастью, к моменту публикации этого материала Ибрагиму удалось легально пересечь границу. Теперь он начинает жизнь с чистого листа в Европе. Пусть без любимой пекарни, зато на свободе...

15 лет назад во двор Полины приехал российский БТР. Спустя считанные минуты ее сыновей расстреляли прямо под окнами родительского дома. Сейчас Полине за 50, она ночует в зале ожидания, прикрывая больные ноги старым пледом. Дома о ней некому позаботиться, а на Западе она встретит друзей – чеченцы живут в лагерях дружной семьей. Там женщине не придется провести старость в одиночестве и страхе.

Беслану в прошлом месяце исполнилось 24. Из них 4 года он уже прожил в Германии. А потом тяжело заболела его мать. Беслан был вынужден вернуться на неприветливую родину. Но когда мама пошла на поправку, парень захотел опять уехать в Европу.

– *В Тересполе я стал сопротивляться, когда нас загоняли в изоляторы. В итоге мне обмотали руки пластиковым хомутом, а потом надели наручники. В Беларусь я ехал в наручниках, а ключ от них находился у девушки-проводницы поезда. Большего унижения сложно представить…*

Рассказывает 20-летний Магомед:

– *Дома у меня было три друга. Однажды случился какой-то несерьезный конфликт между нашей компанией и власть имущими, скажем так. Вскоре один друг утонул. После этого люди Лорда поймали двух остальных и заставили на камеру танцевать. Вот под эту песенку: «На веселых на утят быть похожими хотят, быть похожими хотят все-все-все-все». Потом Лорд выложил это видео в интернет с подписью «Обычно утята умеют плавать. Жаль, что один из них утонул».*

К слову, Лорд – это Магомед Даудов, молодой председатель парламента Чеченской Республики и правая рука Рамзана Кадырова. В 2007 году Даудов был удостоен звания Героя России…

### Беженцы «второго сорта»?

Сегодня Польша имеет лимит по приему беженцев, установленный в рамках общеевропейских соглашений. Тем не менее в начале текущего года Союз предпринимателей и работодателей Польши предложил предоставить вид на жительство миллиону мигрантов. В организации подчеркнули, что для сохранения темпов экономического роста Польше следует принять до пяти миллионов человек в период до 2050 года. Правда, касается это в основном выходцев из Украины и Беларуси – их глава Союза **Цезары Казьмерчак** назвал «мигрантами высокого класса, которые не нуждаются в обучении языку и профессиональным навыкам». Правительство Польши также подготовило законопрект о возвращении на родину депортированных в советское время поляков.

Выходит, поляки считают переселенцев из Чечни, образно говоря, людьми второго сорта? Но тогда они нарушают Статью 3 Конвенции о статусе беженцев ООН, которая запрещает дискриминацию по расовому, религиозному признаку и стране происхождения. Согласно Конвенции, «угроза физической свободе из-за взглядов и убеждений в стране проживания является преследованием», а преследование считается веским основанием для предоставления статуса политбеженца.

Ситуация на Брестском вокзале требует срочного внимания как польских, так и международных правозащитных организаций. Семьям с детьми часто не хватает элементарных вещей: теплой одежды, чистой воды. Нет гуманитарной помощи ни от Красного Креста, ни от представительства ООН, ни от волонтеров.

***

«Добро пожаловать в ад» – такую надпись чеченцы оставляли на стенах и блокпостах во время первого штурма Грозного. В наши дни Чечня стала адом для многих собственных граждан. Пока Рамзан Кадыров и его приближенные играют с золотыми пистолетами, пока колесят на тонированных иномарках и сжигают дома неугодных, в Чечне будут продолжаться пытки и похищения. В регионе, где процветает насилие, никогда не прекратится война.

КОММЕНТАРИЙ ЭКСПЕРТА

## Помощи недостаточно

*Ситуацию с чеченскими беженцами комментирует правозащитница Наста Лойко:*

– Права человека – универсальный механизм. В случае с чеченцами проблема прежде всего с польской стороной. По международным обязательствам Польша должна принимать заявления на получение статуса беженца, но, поскольку это запускает бюрократические процедуры, то полякам проще немотивированно отправлять людей назад в Беларусь.

Правозащитники могут сопровождать беженцев, консультировать, слать письменные обращение во всевозможные структуры. Желательно договариваться с польскими коллегами о контроле с той стороны границы. Но на это требуется много сил и времени.

В Беларуси Красный Крест раз в месяц выдает семьям беженцев продукты. Разумеется, помощи недостаточно. По нормальной процедуре в Польше их обязаны обеспечить жильем, гарантировать социальные выплаты и т.д. Это было бы законно, поскольку большинству чеченцев действительно угрожает опасность на родине.

**Катерина АНДРЕЕВА.**

*Брест–Минск.*

ВЫБАРЫ

# Без Казлова, але з Крыжаноўскім і Дарафеевай

Учора скончылася рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Некаторыя рашэнні наконт будучых прэтэндэнтаў на месца ў Авальнай зале акруговыя камісіі прымалі літаральна за некалькі гадзін да заканчэння вызначанага для гэтага часу. Так, у Слоніме, дзе балатуецца вядомы ўрач-траўматолаг, сябра Партыі БНФ **Іван Шэга,** пасяджэнне выбаркама пачалося ў 15 гадзін, у Кобрыне – там у дэпутаты нацэлены мясцовы актывіст, індывідуальны прадпрымальнік **Аляксандр Мех** – у 14.

І Мех, і Шэга зарэгістраваны кандыдатамі ў дэпутаты, яны ўжо могуць распачынаць свае агітацыйныя кампаніі. Сярод вядомых грамадскіх дзеячаў і прадстаўнікоў апазіцыі за дэпутацкі мандат таксама паспрачаюцца намеснік старшыні руху “За свабоду! **Юрась Губарэвіч**, актывісты “Тавары праўду!” **Таццяна Караткевіч і Андрэй Дзмітрыеў, былая настаўніца гісторыі з вёскі Талька Пухавіцкага раёна Наталля Ільініч (у яе ініцыятыўнай групе сама нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч),** старшыня ГА “Таварыства беларускай мовы” **Алег Трусаў**, мовазнаўца **Алена Анісім**, **прадпрымальнік Аляксандр Таўстыка, сябра незалежнага прафсаюза і АГП Аляксандр Малочка. Зарэгістраваны прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта мінулагодняй кампаніі – Мікалай Улаховіч і Віктар Цярэшчанка, а таксама прадстаўнікі ЛДПБ – Алег Гайдукевіч і артыст Яўген Крыжаноўскі.**

**Шлагбаўм акруговыя камісіі паставілі Алесю Лагвінцу** з руху «За Свабоду», палітолагу **Уладзіміру Падголу** і **Мікалаю Казлову** – старшыні мінскай арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі, падпалкоўніку міліцыі ў запасе, які неаднаразова прад’яўляў факты фальсіфікацый падчас выбараў у Беларусі. Дарэчы, у адну з камісій па Старавіленскай выбарчай акрузе №105, дзе спрабаваў стаць кандыдатам Мікалай Казлоў, уключылі сябру АГП **Вадзіма Казначэева**, які адразу ж заявіў, што “*адзін выбарчы ўчастак у Беларусі стане “ўзорна-паказальным”, мы будзем ведаць пра сапраўднае волевыяўленне людзей, іх настрой і стаўленне, у тым ліку і да апазіцыйнага кандыдата*”. Цяпер, хутчэй за ўсё, апазіцыйнага кандыдата па гэтай сталічнай акрузе не будзе. **Ірына Дарафеева**, напэўна, ужо можа святкаваць перамогу. Спявачка балатуецца па гэтай жа акрузе, яе, вядома, акруговы выбаркам зарэгістраваў. А Мікалай Казлоў падаў скаргу ў Мінскую гарадскую выбарчую камісію.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Мікалай КАЗЛОЎ: «Мая добрасумленнасць сыграла са мной злы жарт»

Чаму не зарэгістравалі Мікалая Казлова?

– У маёй дэкларацыі аб даходах знайшлі памылку, – расказвае палітык. – У мінулым годзе я купіў і прадаў аўтамабіль, пра што не пазначыў у дэкларацыі, і камісія палічыла, што я атрымаў даход, які схаваў. Але гэта не так. Мая добрасумленнасць сыграла са мной злы жарт.

Я сапраўды ў 2015 годзе папрасіў свайго знаёмага купіць мне ў Расіі аўтамабіль і аформіў на яго даверанасць. Але машына мне не спадабалася, па дамове вярнуць яе ў расійскую краму я не мог. 3-га сакавіка 2015 года гэты аўтамабіль быў набыты, 4-га ў адпаведнасці з беларускім законам я яго паставіў на ўлік у ДАІ, а 5 сакавіка зняў з уліку і прадаў за тыя ж грошы, што і набыў. Даходу я ад гэтай здзелкі не атрымаў і ў падатковых органаў да мяне пытанняў няма. Тым не менш выбарчая камісія палічыла, што я наўмысна не ўказаў гэтыя звесткі ў дэкларацыі, і гэта ёсць парушэнне і падстава адмовіць мне ў рэгістрацыі кандыдатам.

**– Магчымасці даць тлумачэнні ў вас не было?**

– Скажу шчыра, я спачатку асалапеў. Я не памятаў пра гэтую машыну ўвогуле. І не ўказаў у дэкларацыі факт яе продажу не таму, што хацеў нешта схаваць, а таму што элементарна забыўся – на гэтым продажы я ж нічога не зарабіў, ніякага прыбытку не атрымаў! Гэта прайшло такім эпізодам у жыцці, як паход на спектакль або ў краму. Няма ні ў кога ніякіх падстаў лічыць, што я нешта хаваў. Я трымаю дома ўсе дакументы з ДАІ: калі і дзе якія машыны набываў і прадаваў, у тым ліку і па дадзенай машыне.

Безумоўна, ёсць мая памылка, я злуюся сам на сябе: ну як мог дапусціць такі промах! Але... Нашым выбарчым заканадаўствам дакладна прапісаны выпадкі, калі камісія абавязана адмовіць прэтэндэнту ў рэгістрацыі, і мой выпадак не падпадае пад гэты артыкул. Ён рэгулюецца часткай другой артыкула 68-1, якая прадастаўляе камісіі толькі права адмовіць. Але яны ім хуценька скарысталіся, хаця ў іх было права і зарэгістраваць.

Я лічу, што гэта адбылося наўмысна, што ў камісіі да мяне асаблівае стаўленне. Маю ініцыятыўную групу не зарэгістравалі з першага разу, мне вынеслі вусную заўвагу з нагоды правядзення пікета ля будынка МУС.

Безумоўна, я падаў скаргу ў гарадскую выбарчую камісію. Лічу, што, улічваючы ўсе абставіны, адмовіць мне ў рэгістрацыі закон не абавязвае. Але ў нашай краіне няма вяршэнства закона, ёсць вяршэнства права. У нас для сяброў усё, а для ворагаў – закон. У спявачкі Дарафеевай таксама стаялі пікеты, але ніхто не правяраў, ці не парушыла яна закон, быў задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс. Усё мы гэта бачым, усё разумеем. Таму, вядома, шанцаў, што гарадская камісія перагледзіць рашэнне акруговай на маю карысць, мала.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

